# ПАДУМАЙ



*Ці добра нарысаваны гэты малюнак?*
*Якія памылкі вы знойдзеце на малюнку?*

## ЗНАЙШЛІ







## ЗАГАДКІ.

Стаіць на страсе і люльку курыць.

*

Вісіць сіта ня рукамі зьвіта.

*

Поўна бочачка круп, а на версе струп.

*

Не агонь, а пячэцца.

*

Ня хворая, а ўсё стогне.



*Дзе злодзей, які пакраў яблыкі?*

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ МЕНШЫХ ДЗЯЦЕЙ




# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ОРГАН ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ

Год выданьня 2-гі

Умовы падпіскі:

| | |
|---|---|
| На 1 месяц | 15 к. |
| На 3 м-цы | 45 к. |
| На 6 м-цаў | 90 к. |
| На 1 год | 1 р. 80 к. |

№ 2 (5) Студзень 1930 г.

Адрас Рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КОМСАМОЛЬСКАЯ, 25



## ЧЫРВОНААРМЕЙСКІ МАРШ



Ідзем-плывем шырокім морам,
Адвага ў вачох.
Агнём гараць на шапках
зоры;
З штыкамі на плячох.
Вакол зьвіняць пабеды гукі,
Зіяе ў сонцы шлях.
Трымаюць моцна нашы рукі
Свой пролетарскі сьцяг.

Праходзім гарады і сёлы,
І пушчы і лугі.
Оркестры граюць марш вясё-
лы—
Ня ведаем тугі!
Ідзем пагрозаю чырвонай,
Імкнемся ў даль-сусьвет,
Сьцягі мігцяцца над калёнай,
Сьцягі, як макаў цьвет.
Палкі варожыя спынялі
Нас на сваім шляху.
Ды ўсе яны адно пазналі—
Растоптаны ў пяску!





# ДВАНАЦЦАЦЬ СЛАУНЫХ ГОД

*(Да гадавіны Чырвонай арміі).*

## ЯК ЗАСНАВАЛАСЯ ЧЫРВОНАЯ АРМІЯ

Першай ваеннай сілай Кастрычніка была рабочая Чырвоная гвардзія.

Чырвонай гвардзіі давялося вытрымаць першы націск белых генэралаў, якія выступілі супроць рэволюцыі. Яна зьнішчыла генэральскія банды Каледзіна, Краснова, Карнілава ды іншых.

Але ўсьлед за царскімі генэраламі заварушыліся замежныя белагвардзейцы.

Чырвоная гвардзія ня мела сілы змагацца з нязьлічоным узброеным да зубоў ворагам. Аднэй адвагі было мала. Патрэбны былі вывучка, дысцыпліна. Патрэбна была добра ўзброеная, вялікая армія з адзіным камандваньнем.

Партыя і Савецкая ўлада пастанавілі стварыць Чырвоную армію.

23-га лютага 1918 году за подпісам тав. Леніна быў выпушчаны дэкрэт пра організацыю рабоча-сялянскай арміі.

Пад грукат белагвардзейскіх гарматаў і кулямётаў бальшавікі пачалі будаваць Чырвоную армію. Яна хутка зрабілася магутнай і страшнай для ворагаў сілай.

## АБКРУЖАНЫЯ

Пасьля рэволюцыі з усіх бакоў нас абкружыла чужаземная войска і царскія генэралы.

На поўначы—ангельцы, французы і амэрыканцы.

На захадзе і на Украіне—немцы.

На ўсходзе, па Волзе—чэхаславакі.

На Дану—генэрал Красноў.

На Кубані і Паўночным Каўказе—генэрал Дзянікін.

У Закаўказьзі—немцы і туркі.

У Сібіры — адмірал Калчак, японцы і амэрыканцы.

Маладой Чырвонай арміі давялося змагацца з аб'яднанымі

сіламі сусьветнай контр-рэвалюцыі. Але яна перамагла ўсіх гэтых ворагаў. А перамагла таму, што Чырвоная армія ведала, за што змагалася. Вось як пра гэта сказаў У. І. Ленін:



„Імпэрыялістыя ўсяго сьвету кінуліся на нашую рэспубліку, каб задушыць яе. А мы пачалі ствараць армію, якая першы раз у гісторыі ведае, за што яна змагаецца!“

# МАГУТНАСЬЦЬ ЧЫРВОНАЙ АРМІІ

НАША Чырвоная армія зьяўляецца асаблівай арміяй. Ва ўсіх буржуазных дзяржавах ёсьць арміі, якія бароняць інтарэсы пануючых кляс. Але няма ніводнае арміі ў сьвеце, якая была-б так шчыльна, крэўна зьвязана са сваім народам, як Савецкая Чырвоная армія.

Калі праходзіў, напрыклад, полк царскай арміі па вуліцы, з оркестрам музыкі наперадзе, дык стройныя шэрагі салдат і музыка спынялі ўвагу вулічнага натоўпу. Але тут нічога, апрача простай цікавасьці, ня было. Ня было ніякай крэўнай сувязі, ніякай унутранай блізкасьці паміж царскай вайсковай часьцю і народам.

Зусім ня тое адчуваецца ў адносінах да Чырвонай арміі.

Калі праходзіць стройнымі шэрагамі якая-небудзь чырво-




Чым быў і чым стаў пры дапамозе Чырвонай арміі СССР. Зьлева стрэлкаю паказаны СССР у 1918—1920 г. Сіняю фарбаю адзначана Савецкая краіна ў цяперашні час.

наармейская часьць, дык кожны рабочы, кожны селянін, захапляючыся яе знадворным выглядам, адчувае некаторую ўнутраную гордасьць.

Рабочы або селянін нашае краіны не адасабняецца ад Чырвонай арміі.

Ён адчувае яе сваею, дарагою, блізкаю. Будаўніцтва ўзброеных сіл нашай краіны ён лічыць сваею роднаю справаю.

Нідзе ў сьвеце гэтага няма.

Чырвоная армія шчыльна зьвязана з народнымі масамі. І складаецца яна з рабочых і сялян.

Моцнае зьяднаньне паміж рабочай клясай, сялянствам і Чырвонай арміяй зьяўляецца зарукай магутнасьці і неперажнасьці Чырвонай арміі.

Галоўная задача Чырвонай арміі—абараняць нашы савецкія граніцы.

Але, апрача гэтага, Чырвоная армія выконвае іншую вялікую задачу. Чырвоная армія робіць культурна-палітычны ўплыў на грамадзкае і савецкае жыцьцё вёскі.

Маладыя рабочыя і сяляне, вышаўшы з Чырвонай арміі, робяцца, дзякуючы атрыманым у Чырвонай арміі ведам, добрымі грамадзка-палітычнымі работнікамі для гораду і асабліва для вёскі. **М. Калінін.**

## КРЫЛАТЫЯ ГОСЬЦІ

**Над туманным лесам, балотам,**
**Дзе налісь хлапчуком падпаскам**
**Сканаў з каровамі кадрылю я,**
**Сёньня горда плывуць самалёты...**
**Нібы-то дзіўная казка!..**
**Над туманным лесам, балотам**
**Крылатая эскадрылія...**

*М. Чарот.*



*А. НЯВЕРАЎ.*

# ГЛІНЯНЫ САЛДАТ



ПРЫВЁЗ бацька з гораду Янку цацку—глінянага салдата. Цэлы дзень забаўляўся Яначка гэтаю цацкаю. А потым неяк ненаўмысьля скінуў са стала яго—салдат разьбіўся. Янка заплакаў. Бацька сказаў яму:

— Чаго ты плачаш?

— Салдата шкадую.

— Ня плач, мы другога зьлепім.

Намяшалі яны гліны, пачалі салдата ляпіць. Зрабілі тулава, рукі з нагамі, прыклеілі галаву. Высахла гліна, пабялілі яе мелам, сінім алоўкам памалявалі. І вышаў сапраўдны салдат, ня горшы чым куплёны ў горадзе. Паглядзеў Янка на салдата і кажа бацьку:

— Аднаму салдату сумна будзе, трэба яшчэ зрабіць.

Навучыўся Янка салдат ляпіць. Селяніна потым з гліны зрабіў. З таго часу і цацкі перастаў купляць у краме. Прыходзілі сябры да Янкі і таксама вучыліся ад яго, як салдат з гліны ляпіць. Янка вучыў іх, а сам думаў:

— Трэба яшчэ каня зьляпіць і кошку.

Сябры казалі яму:

— Конь ня выйдзе з гліны.

А Янка сьмяяўся з іх:

— Нічога вы ня цяміце ў гэтых справах. З гліны можна ўсялякую цацку зрабіць



# ПАРАД

*Верш ГЕНАДЗІЯ ФІША*

Трубачы у рад пасталі,
Трубачы ў ражкі зайгралі—
Пачынаецца парад.



Вось ідуць за радам рад,
За ротаю рота,
Чырвоная пяхота.
У ногу шагаюць,
Песьні сьпяваюць.



Белыя рубашкі,
З боку біклашкі,
Шыі голыя,—
Маракі вясёлыя.
Шагаюць і сьпяваюць:
„Па марам, па марам,
Сёньня тут, а заўтра там...".

Вось едзе сіла конная,
Дывізія Будзённая,

Вострыя шашкі,
Зялёныя рубашкі.





А гэта вам ня жарты,—
Цяжкія гарматы.

Сьпераду скрынкі,
А ў іх—снарады.



Імчацца самакаты
І бранавікі.
А самалёт высока
Забраўся палятаць.
Адтуль яму далёка
Ва ўсе бакі відаць.



Сьпяшаюцца скора
Бравыя сапёры.
Працуюць яны лоўка,
Працуюць яны дружна,
Сякера і рыдлёўка
За кожнай папружкай.

Оркестры і плякаты—
Ідуць, пяюць палкі.

Ён бачыць і калёны,
Ідуць за радам рад,
Дамы, масты, вагоны
І ўвесь-увесь парад.

Апавяданьне А. Якімовіча. Малюнкі Розанава.

# Хто-ж быў за камандзіра?

## I.

У адзін з асеньніх дзён выбралася вайсковая школа за горад для практычных заняткаў. Дарма, што зямля ад сырасьці распаўзлася, што надвор'е сумнае, халоднае,—курсантам-чырвонаармейцам на гэта не зважаць. Сёньня ў іх самы горачы дзень. Яны будуць у полі на практыцы правяраць тое, чаму навучыліся за прошлы час у школе.

Борзда пастроіліся ў шарэнгі. Ззаду ад пяхоты сур'ёзна павыстаўлялі ў паветра свае жаралы гарматы, потым, крыху далей, выстраілася коньніца.

Сьпераду заіграў оркестар паходны марш. Ад такой лёгкай, вясёлай і радаснай музыкі ногі самі пачынаюць адбіваць такты.

— Раз, два, тры!—прагучэў выразны моцны голас начальніка школы з пярэдняга канца шарэнгі.

— Грук, ґрук, грук!—застукацелі ў адказ камандзе курсанты.

— Фр-р-р... тра-рах!—загрукацелі за пяхотаю бабулі-гарматы, а за імі і двуколкі з кулямётамі.

— Лясь-лясь-лясь!—заляскалі шустрыя, вясёлыя рысакі,—атрад коньніцы.

І стройная шарэнга чырвонаармейцаў рушыла па гразкай вуліцы за горад.

## II.

ПАЎЛІК, як ніхто, любіў слухаць музыку оркестраў. Так і цяпер. Пачуўшы з хаты такі радасна-вясёлы марш, Паўлік борзьдзенька схапіў вопратку, стары бацькаў шлем, сьвіснуў на свайго неразлучнага таварыша, Мірціка, і выскачыў з хаты.

Спачатку Паўлік бег тратуварам. Але чым дальш у цэнтр гораду, тым цясьней станавілася на тратуары: вельмі многа ахвотнікаў было слухаць музыку і праводзіць чырвонаармейцаў-курсантаў.

— Мірцік, ты, глядзі, пільнуўся!—на ляту загадаў Паўлік Мірціку, і выбег наперад шарэнгі.

Цяпер ніхто ня штурхаўся, не перашкаджаў. Ён вольна паважнецку шагаў сабе сярэдзінай вуліцы, а за ім цэлая школа. Мірцік ні на крок не адступаўся ад свайго гаспадара. З боку гледзячы, гэта быў вельмі пацешны малюнак. Аўтобусы, рамізьнікі, ламавікі—усе ўцякалі з дарогі.

Гэтак зайшлі аж за горад, на шырокае пустое поле, дзе мелася быць праведзена вайсковая практычная гульня.

На полі ўсе спыніліся. Спыніўся і Паўлік з Мірцікам. За дарогу Паўлік прамок, куртачка яго зрабілася вельмі цяжкаю, з шапкі капала на шыю і шчыкатала холадам скуру. Рукі пакрэплі і ён цяпер ня вымаў іх з кішэні.




Але вось неўзабаве кругом поля рассыпаліся курсанты-чырвонаармейцы. З аднаго боку ворагі—белыя, з другога—чырвоныя. Чырвоныя мусяць наступаць на белых. Ад цікавасьці і жаданьня ўсё ўбачыць, Паўлік ня ведаў, дзе лепш прымасьціцца. Ён пачаў бегаць з аднаго кутка ў другі, усюды стараўся пасьпець, нічога не прапусьціць. Цяпер яму стала зусім горача. Куртку сваю Паўлік расшпіліў, шлем зьняў і ўзяў у рукі.

„Вось добра, што пайшоў“—думаў ён.

Пасьля перастрэлкі чырвоныя кінуліся бегчы ў атаку на белых. Белыя таксама не здаваліся лёгка. З іх боку ўвесь час сакаталі кулямёты і бухалі гарматы.

— Гура! Гура!—загукалі ўсе гуртам чырвоныя і мігам памчаліся на белых.



— Гура! Гура!—закрычаў з усяе сілы і Паўлік тоненькім дзіцячым галаском.

Пэўна-ж ніхто не пачуў яго „гура“, але клопат вялікі?

Чым далей Паўлік бег усьлед за чырвонымі, тым усё больш ахапляла яго ахвота і жаданьне, каб дабегчы да белых разам з усімі.

З такой гарачкі ды захапленьня і не заўважыў Паўлік, што адбегся ён залішне ў бок.



— Уцякай, уцякай, хлапчаня!—закрычала раптам у адзін голас некалькі чалавек, што ляжалі воддаля і стралялі ў бок белых. Аглянуўся Паўлік назад, аж вось-вось перад ім, мо‘ за дваццаць крокаў якіх—на ўсім ляту коньніца... Зямля стогне ад капытоў разгневаных коняй. Гэта чырвоная кавалерыя выскачыла з-за горкі на дапамогу пяхоце. Каму з конных было прыглядацца, што ў іх наперадзе паўзе машкара, крыху большая за куп‘е ды каменьне?..



Коньніца валіла досыць шырокай сьцяною, а Паўлік знаходзіўся як раз пасярод дарогі...

І невядома як-бы там было, каб раптам не заўважыў Паўліка камандзір коньніцы.

— Стой!—гукнуў ён, падняўшы ўверх руку.

Толькі кавалкі зямлі ўзарваліся уверх з-пад ног быстрых рысакоў. Ля самага Паўліка спыніўся конны атрад...

Ні то сварыцца на малога, ні то сьмяяцца, жартаваць з яго?

— Ах, ты, клоп ты!—зарагатаў начальнік,—ты-ж нам усё наступленьне сапсаваў і самога траха не растапталі...

Чырвонаармейцы весела рагаталі і таксама жартавалі. Увесь сур‘ёзны ваенны настрой прапаў.

Адзін толькі погляд на гэтага хлапчука сьмяшыў конных.

— Вось дзе сьмяляка!—казалі яны,—супыніў коньніцу ў самы разгар. Куды-ж цяпер ехаць: позна.

А Паўлік хоць-бы напалохаўся,—не! Яму хацелася вельмі пабачыць яшчэ як ́страляюць гарматы: туды ён і пабег.



III.

КАЛІ вайсковая школа варочалася назад у горад, Паўлік зноў выбег з Мірцікам наперад. Ізноў так важна, пад марш, шагаў ён, а за ім

— стукацела пяхота,

— грукацела артылерыя з гарматамі,

— бразгаталі падковамі коні, словам—цэлая армія.

Чырвонаармейцы, якія ўжо добра азнаёміліся з Паўлікам, сьмяяліся:

— Хто-ж у нас усё-ткі за камандзіра быў—начальнік школы, ці гэты хлапчук?

— Ясна, што хлапчук: ён-жа вёў нас і на поле...—казалі другія.

— Добры, добры будзе камандзір некалі,—згаджаліся курсанты.

А Паўлік і вокам не маргне. З сваім Мірцікам звадзіў вайсковую школу на практычныя заняткі і вось ужо назад вядзе: шлёпае сабе па гразі, увесь мокры, і мармыча паціху марш:

„Вядзі-ж, Будзённы, нас сьмялей у бой,
Хай гром грыміць,
Няхай пажар кругом, пажар кругом,
Мы ўсе адважныя героі,
І ўсё наша жыцьцё—барацьба“...

Мірцік сьпяшаецца ўсьлед і часта наступае Паўліку на пяткі.



# ТУКІ-БАН

Верш **Алеся Данчэнкі**. Мал. **Ке-ша**.

Тукі-бан!
Тукі-бан!
Б'е Кастусь у барабан.

Хто ўгадае,
Распазнае—
Будзе ў іх
Гульня якая?

Раз, два!
Раз, два!
Выступае ўся дзятва.

„Хлопцы, ў ногу
„Трэба ўсім!"—
Загадаў тут
Шустры Кім.

Сіла з намі
Нязьлічыма.
(Мы з кіямі
За плячыма).





Сьцяг наш зьзяе угары.
Мы за волю змагары!
Мы чырвоныя страль-
цы,—
Акцябраты-малайцы.

А на сустрач з-за гары
Пруць паны-багатыры.
Пруць-лятуць
За валам вал.
Камандзірам—генэрал.

А на тым-жа генэрале
І пагоны і мэдалі.
Над панамі пан,
Чырвоны жупан,
Нос, нібы крук,
Сыты, як парсюк.
Твар, як ражка,
У руках—шашка.

Тукі-тукі
Тукі-бан,
Стукай-стукай,
Барабан!

Б'е Кастусь у бубен свой,
„Гэй, ня стой!
Усе—на бой!"

Пылу хмара, нібы газ,
Кім адзеў працівагаз.




Бум, бум!
Гоман, шум.
Тут і там,
Та-ра-рам.

Генэрал
Узьлез на вал:
„Гэй, скарыся,
Сьцеражыся!
Не займай,
Уцякай,



Бо як дам
Усім вам...

Тут і там
Та-ра-рам.
З тых кійкоў
Бба-ба-бах...
Генэрал—
Толькі „ах"...

„Гэй ,Піліп.
Гэй, Фядот,
Падавай кулямёт!"
Мчыцца той атрад чырвоны,
Ужо з паноў ляцяць пагоны.



Раз-два, раз-два!
У кучу зьбеглася дзятва.
Усіх паноў, хоць без па-
гон,
Захапілі у палон.
Гэй, чырвоныя страль-
цы,
Акцябраты-малайцы.

„У генэрала-ж адабралі
Тую шашку і мэдалі.
„От-жа табе, генэрале,



От-жа табе, будзеш
знаць,
Як трэ' з намі ваяваць!"

З украінскай мовы
пераклаў А. Я-віч.



М. В. ФРУНЗЭ.

Няхай жыве
і мацнее
наша слаўная
Чырвоная Армія!



# МАМІНА СЬВЯТА

*Апавяданьне ВЯСЁЛКІ.*

I.

Дзень 8-га сакавіка ў дзіцячым садзе ведаюць, як „маміна сьвята“.

Да гэтага сьвята ўжо ўвесь дзіцячы сад загадзя рыхтаваўся: ладзілі інсцэніроўку, вучылі колектыўную дэклямацыю, песьні, машыроўкі, гульні. Дзеці з кожнай групы падрыхтавалі сваім мамам падарункі: фігуркі з каляровай паперы, малюнкі, падушачкі для шпілек ды іголак. Дзеці-ж з самай старэйшай групы ў садзе напісалі самі прыгожа і старанна такія лісты: „Дарагая мама. Вітаю цябе з днём твайго сьвята“.

Уся гэта падрыхтоўка праводзілася ў сакрэце: дзеці дома аб гэтым нічога не казалі мамам, толькі загадзя клікалі мамаў канешна прыйсьці на сьвята ў дзіцячы сад. І сёньня кіраўніца трэцяй групы, цёця Ксеня, зноў расказвае дзецям пра заўтрашняе маміна сьвята.

— Гэтае сьвята—міжнароднае сьвята працоўнай жанчыны—пастаноўлена сьвяткаваць яшчэ ў 1910 годзе. Але вольна мы сталі сьвяткаваць яго толькі пры савецкай уладзе. Для нашых жанчын гэтае сьвята радаснае і вясёлае. Яно прыпамінае ім, што і яны маюць роўныя правы, як і мужчыны, і вашы мамы таксама працуюць, як і бацькі, таксама ходзяць на сходы, таксама і вучацца.

Паселі дзеці кругом стала, сьцішыліся, слухаюць уважна, што расказвае цёця Ксеня. А цёця Ксеня пытае ў дзяцей па чарзе:

— Дзе працуе твая мама, Ядзя?

— У бальніцы, санітаркай.

— І мая санітаркай!—крычыць Ліля.

— А твая, Дора?

— Мая—у Меншвеі,—польты прасуе.

І дзеці як птушкі шчабечуць,

адно перад другім стараецца расказаць, што робіць і дзе працуе яго мама.

— Бачыце, дзеткі,—кажа цёця Ксеня,—кожная мама многа працуе. А вы павінны маму слухаць і памагаць ёй, чым хто можа ў яе працы. Пакажэце вашай маме, што і вы таксама патрапіце працаваць і хочаце дапамагчы ёй. Мама будзе рада бачыць, што з вас вырастаюць працавітыя людзі, якія потым заменяць яе ў рабоце.

— Я буду па хлеб хадзіць,—кажа Юрка.

— А я буду Антоську забаўляць,—дакляруе Стась.

— А я і так кожны дзень хаджу ў коопэратыў і па малако,—дадае Ніна.

Так усе дзеці і пастанавілі—памагаць маме, чым хто зможа і здужае.

II.

А ў садзе сёньня сапраўднае вялікае сьвята і сад прыбраны, і дзеці прыбраны, і кожнае дзіця сваю маму ў госьці прывяло—шумна, весела, радасна. Глядзіць Ленін са сьценкі і быццам цешыцца з дружнай і згоднай дзіцячай грамады, дзе няма „майго“, „твайго“, а ёсьць усё „наша“ і „ўсіх нас“.

Загадчыца саду вітае матак з іхнім сьвятам. Потым вітае іх ад імені дзяцей Лёня Баброві з нулявой групы, вітаюць і піонэры, якія таксама прыйшлі ў госьці.

Пад музыку і сьпевы пачынаецца інсцэніроўка працы. Тут і жнейкі, тут і швачкі, пры машыне—шыюць і кроюць, тут і кавалі... Ой, што за кавалі! Зроблены горан, як у сапраўднай кузьні, а ў горане, пад стук молата і звон жалеза, загараецца рознакалёрны агонь...



*Увесь дзіцячы сад загадзя рыхтаваўся...*

Вочы дзяцей блішчаць радасна-радасна, яны быццам ганарацца перад мамамі—вось як у нас, глядзеце! І моцна, бадзёра зьвініць іхняя песенька:

„Мы пакажам, што умеем
Працаваць як трэба!“

А потым машыроўка, а потым зноў дэклямацыя, песьні, прысьвечаныя мамінаму сьвяту.

Трудна сказаць, што лепш і цікавей—так усё добра, так усё цікава і прыгожа!

Але дзеці патаміліся—ужо і канец. Цяпер толькі астаецца

раздаць мамам падарункі. Якая радасьць і маткам, і дзецям.

А што-ж гэта?

Выходзіць Зосіна мама і шчыра дзякуе ад усіх матак кіраўнічак і дзяцей за гэткае слаўнае і вясёлае сьвята.

— А вам, дзеткі, і мы прынесьлі падарункі: першай групе—вось гэтыя featuresнакалёрныя пірамідкі, каб вы вучыліся пазнаваць колеры. Другой групе—гэтую вялікую галку, будзеце ўжо скора гуляць з ёю на дварэ. Трэцяй—кубікі, будзеце будаваць і вучыцца лічыць. А вам—нулявой групе—вось гэта бібліотэчка—тут розныя цікавыя кніжкі, чытайце іх, бо вы ўжо чытаць умееце...



Дзеці грамадою абступілі падарункі і радасна пачалі іх хваліць.

— Просім за стол! Калі ласка, за стол!—запрашаюць усіх дзяжурныя.

Усе ідуць і садзяцца за стол, а на стале чаго-чаго толькі няма: булкі, пернікі, цукеркі, яблыкі і нават—вінаград!

Гэтак сьвяткавалі „маміна сьвята“ ў дзіцячым садзе.

# ЯК ЖЫВЕ МЯДЗЬВЕДЗЬ ЗІМОЮ

*Нарыс А. ПОЛЯКА.*



ПРЫШЛА зіма. Мароз закаваў лёдам рэчкі і вазёры. Зямля, дрэвы і стрэхі будынкаў пакрыліся белым пуховым сьнегам.

Усе рыхтаваліся да зімы. Падрыхтаваўся да яе і мядзьведзь, якога за нярухавасьць часта называюць Касалапым Мішкам.

Летам і ўвосень для яго мелася многа смачнай стравы.

У лесе ён знаходзіў розныя ягады. Еў наш мядзьведзь, еў колькі хацеў.

На палёх багата было каласоў рознага збожжа. Еў наш мядзьведзь, еў колькі хацеў.

На дрэве стаяў каранік (вулей). Там



былі пчолкі, якія назьбіралі многа, многа мёду. Залез наш Мішка да пчолак у госьці, хоць пчолкі і не прасілі яго. Еў Мішка мёд, еў колькі хацеў. Пчолкі моцна кусалі Мішку за нос, а ён толькі лапай абціраўся ды бурчаў сярдзіта.

Вось і раскарміўся-ж наш Мішка. Ён зрабіўся тоўстым, тоўстым. Тлустасьцю аж вочы заплылі. Адчуваў наш Мішка, што зімою яму прыдзецца цярпець голад і холад. Ён хацеў за восень наесьціся на цэлую зіму, і наеўся. На ім вырас калматы кажух. Цяпер зіма не палохае нашага Мішку: ён да зімы падрыхтаваўся.

Выпаў першы сьнег, а Мішка наш забраўся ў гушчыню лесу, зрабіў там сабе бярлог і лёг адпачываць.

Ён ужо да вясны ня будзе вылазіць з свайго бярлогу. Там ён будзе цэлую зіму спаць ды ссаць сваю лапу.

Толькі цёплае сонейка вясны прымусіць яго разьвітацца з сваім бярлогам. Але наш Мішка выйдзе з бярлогу зусім не такім тоўстым, якім ён у пачатку зімы лажыўся адпачываць.

Прапала за зіму ўся яго тлустасьць. Ідзе ён па лесе і ледзь ногі цягне.

Мядзьведзіхі-самкі выходзяць з бярлогу з маленькімі медзьвянятамі, якіх яны родзяць у канцы зімы.



## НАВІНЫ СЛУХАЎ

*(Жарт)*

**Пытаецца маці ў сына:**

**— Дзе гэта ты быў так доўга?**

**— На рынку быў, там навіны расказвалі, дык я слухаў.**

**— А якія-ж хаця навіны ты чуў?**

**— Дзе там за народам дастулішся! Далёка стаяў, дык ня чуваць было.**



# У АКУЛЫ ЗАБАЛЕЛІ ЗУБЫ.



Гэта ня казка, а праўда.

У Амэрыцы, ля гораду Сан-Францыска, ёсьць цікавая ўстанова-станцыя, якая робіць досьледы над морскімі жывёламі і глыбінёю мора. На абшарах мора, занятага гэтаю ўстановаю, жыве вялізарная рыба акула. За досыць доўгі час жыцьця ў межах дасьледчай станцыі акула трохі прывыкла да чалавека, стала „ручною“.

Аднаго разу вучоныя заўважылі, што акула страшэнна пакутуе ад зубной болі. Памагчы ёй можна было толькі адным спосабам: вырваць балючы зуб.

Акула, разумеецца, не магла пайсьці да доктара; прышлося паслаць доктара да яе ў мора. Для таго, каб разгневаная ад болі акула не праглынула доктара, прышлося прыдумаць такі спосаб: адзець на галаву акуле знарочысты жалезны намордиік. Пасьля гэтага доктар адзеў вадалазны гарнітур, спусьціўся ў мора і пры знарочыстым электрычным сьвятле вырваў хворай акуле зуб.

Гэта, як бачыце, нават цікавей за казку. Мусіць, казачнік не асьмеліўся-б дадумацца да таго, каб паслаць доктара ў мора рваць акуле зуб.

У розных зьвярынцах часта прыходзіцца лячыць жывёлам зубы, рот. Гэта работа самая цяжкая і марудная. Жывёлу не ўгаворыш, як чалавека, каб яна была спакойнай.




*Верш Ю. ТУПЯНЕВІЧА.* *Малюнкі КАШКЕЛЯ.*

ПРЫЛЯЦЕЛА зіма, зімка
белая,
З маразамі, са сьцюжай, за-
веямі...

Ой, у полі навеяла сьнегу,
Гоніць птушачак бедных пад
стрэху.

То-ж у полі ні крошкі, ні
зерня
Зімка-ж холадам верне ды
верне.

Не шкадуе яна птушанятак;
Заганяе вас, дзеткі, у хату.

Добра дзеткам маленькім у
хатцы:
Цёпла, сытна—чаго там баяцца?



Верабейчык з сінічкаю дру-
жаць;
Разам зімку гаруюць ды ту-
жаць.

Дзе-б схавацца ад холаду-
сьцюжы?
Есьці хочацца птушачкам дужа.

Ой, няпраўда, што кажуць на
дзетак,
Што ня шкода ім птушачак
гэтых.

Не хацелі, каб птушкі марнелі,
Акцябраткі усе, піонэры.

Як сышліся учора гурбою,
Гаманілі яны між сабою.

Што і як там яны вырашалі—
Анікому аб тым не казалі.

* * *

Рана птушкі назаўтра усталі,—
Сумаваць, бедаваць зноў пачалі:

Калі будзем і сёньня бяз
корму,—
Гаварыла сінічка дакорна,—

— Дык вясны ня убачыць нам
гэтай,
Ня сустрэць і прыгожага лета.



Птушка нізка схіліла галоўку;
Верабейчыку сумна, няёмка

Ён, абураны, кажа сініцы,
Што ён сьмерці зусім не
баіцца

Але раптам на нізкай ігрушы
Ён убачыў цікавае дужа.

Зірк туды і сінічка-падружка
Мігам птушкі ўзьляцелі на
йгрушу.

Там, на дошчачцы гладзенькай
новай,
Жоўтых крупак насыпана
многа.



Птушкі дзюбаюць смачная
крупка,
Прыляцелі і ўсе сюды хутка.

Чулі птушачкі ўлетку, як пелі
У садочку сябры—піонэры.

І цяпер здагадаліся скора,
Хто разьвеяў іх цяжкае гора.

Ах, і слаўныя-ж гэтыя дзеткі,
Будзе дзякуй ад нас вам
улетку:



Сьпеваў нашых вам будзе
давол
І садочка ня зглуміць жук-
вораг.

А зіма ўсе сьнегам у полі,
Злосна плача і вее праз камін,

Ды ня страшна ўжо птушач-
кам нашым,—
Падтрымае іх добры таварыш.




*(З рэвалюцыйнага мінулага)*

**Апавяданьне А. ЧАРНОЎСКАГА.**

ГЭТА было ў летку 1878 г. ў горадзе Адэсе. Адэскі ваенна акруговы суд разглядаў справу групы рэволюцыянэраў. Іх вінавацілі за тое, што яны са зброяй у руках не давалі паліцыі рабіць вобыску на кватэры, дзе адбываліся сходы рэволюцыянэраў. Галоўнага бунтара, Янку Кавальскага, прысудзілі пакараць сьмерцю, рэшту на катаргу і высылку ў Сібір.

Уся Адэса з цікавасьцю сачыла за гэтым судом. Вялікі натоўп народу з нецярплівасьцю чакаў ля будынку, дзе судзілі, канца суду.

Калі ў будынку абвясьцілі прыгавар, хтосьці з публікі высунуўся з вакна і замахаў да людзей чырвонай хустачкай, „сьмяротная кара".

На вуліцы адразу пачалі крычаць, плакаць. Таварышы засуджаных заклікалі людзей напасьці на вартавых паліцэйскіх і сілаю вызваліць зьняволеных. Але было выклікана войска і многа паліцэйскіх, якія пачалі страляць у людзей. Двое чалавек было забіта, 15 паранена, а рэшта разьбеглася.

Шмат каго арыштавалі.

Але ўвечары на ўзьбярэжным пляцы гораду зноў пачалі зьбірацца ў гурт людзі. Зьявіліся і рэволюцыйныя прамоўцы.

Раптам на скамейку з гурту людзей ускочыла маленькая дзяўчынка. Яна дрыжачым, звонкім голасам, праз плач,

сказала прамову аб тым, што царскія судзьдзі хочуць павесіць Кавальскага толькі за тое, што ён жадаў дабра бедным людзям.

Недалёка ад дзяўчынкі стаяў царскі афіцэр Сіверс. Ён не сьцярпеў такой прамовы, арыштаваў дзяўчынку і хацеў аддаць яе паліцыі. Але дзяўчынка стукнула кулаком афіцэру па шчацэ і крыкнула, што і ён абараняе злых царскіх крывапіўцаў. Натоўп людзей накінуўся на афіцэра, вызваліў дзяўчынку і памог ёй схавацца.

Але на гэтым ня скончылася. Паліцыя ўпарта шукала тую дзяўчынку. Яе знашлі. Гэта была вучаніца аднае школы Вікця Гукоўская. Ёй было толькі 13 г.



Разам з другімі рэволюцыянэрамі Вікцю перадалі ваеннаму суду.

Суд прысудзіў пяць чалавек пакараць сьмерцю, а няпоўналетнюю Гукоўскую—выслаць на вечную катаргу.




Дзяўчынку адаслалі ў Сібір. Цэлыя два гады перакідалі яе з турмы ў турму, пакуль, нарэшце, не апынулася яна ў сібірскай Краснаярскай турме. Сядзела Гукоўская ў турме разам з разбойнікамі, зладзеямі, якія неміласэрна крыўдзілі малую дзяўчынку.

Гукоўская не магла вытрымаць такой турэмнай пакуты. 11-га сакавіка 1881 г. Вікця Гукоўская павесілася ў турме.

Так загінула замучаная царскімі катамі дзяўчынка.

# ЗІМОВЫЯ КВАТАРАНТЫ.





Прышла зіма, а з ёю холад і голад. Туга прыходзіцца цяпер птушкам, зьвяром і іншым дзікім жывёлінам.

Горш за ўсё дык гэта маленькім зьвярком. Холадна і галадна ўсім, і зґаладалыя драпежнікі—ваўкі, лісы—пільнуюць іх на кожным кроку.

Паратунку ад іх не чакай, з усяе сілы трэба старацца выратавацца ад іх. А ў гэты час вельмі цяжка здабываць сабе яду і знайсьці цёплы куток для начлегу.

І вось пачынаецца перасяленьне птушак і маленькіх зьвяркоў блі-



жэй да жыльля чалавека, а некатарыя з іх залазяць і ў самае жыльлё.

Маленькім зьвяркам тут, па суседзтву з страшным для іх чалавекам, больш спакойна, чым у лесе і ў полі—драпежнікі сюды рэдка заглядаюць.

Сінічкі, сьнягіры, вераб'і, сарокі, шчыглы зьлятаюцца да жыльля і займаюць зімовыя кватэры на вышках і пад страхою.

У садзе і ў гародзе на кустох засталіся ягады і насеньне. Гэтым таксама можна пажывіцца. На вышках уладзіліся кажаны (лятучыя мышы). Яны вісяць уніз галавою, кіпцюрыкамі трымаюцца за бэльку. Спаць на вышках спакойна і цёпла.

А вось у сьвіронку, у хляве, у стагох сена і саломы знайшлі сабе хаты мышы. Зернят шмат—ня будуць галоднымі. А ў стагох саломы яны прагрызаюць доўгія калідоры, будуюць сабе гнёзды.

Лесавая мыш запаўзае на гару альбо на саламяную страху. Тут таксама кватэра добрая. У страсе зьвярок наробіць сабе хадоў і зробіць спальню.

Селіцца ўзімку ў сьвірнох, хлявох і больш буйны зьвярок—ласка.

Драпежны гэты зьвярок: у куратніку зьнішчае курэй. Але затое яна зьнішчае і шмат мышэй, і бяз ласіцы мышы распладзіліся-б так, што ад іх нельга было-б захаваць хлеб.

Чалавек страшны для зьвяркоў. Але вы бачыце, што каля яго жыльля заўсёды можна чым-небудзь пажывіцца і знайсьці цёплы куток.



# ЗРАБІ САМ ДЛЯ СЯБЕ.

Сядзяць дзеці-акцябраты вакол стала, працуюць. Ножанкамі з картону цацкі вырэзваюць.

Поўны стол цацак, глядзець весела. Юрка з картону каня зрабіў, такога як на малюнку № 1.

Намаляваў, выразаў і сядла зрабіць не забыўся. Потым прымацаваў каня да вэганкі. Гнеды конь атрымаўся (мал. № 2).



№ 1

А другі хлопчык шэрага каня зрабіў.

Працуюць дзеці. Хто каня робіць з малюнку, хто размалёўвае каня фарбамі, а хто на вэганцы прылаажвае. Глядзі вэганку на малюнку № 3.

Дзе рыскі на скрэпках, там трэба надрэзаць і ў ніжнія надрэзы ўставіць вэганку, а ў верхні—каня.



№ 2



№ 3

За працаю не заўважылі дзеці, як Васіль Янкавіч—павадыр, з паперы сабачку зрабіў ды на стол яго паставіў.

Абкружылі павадыра дзеці, крычаць: як зрабіць? А зрабіць вось як: глядзі малюнкі № 4—гэта выкрайка сабачкі. На выкрайцы пасярэдзіне праведзена лінія кропкамі. Па гэтай лініі трэба скласьці сабачку папалам.







Мал. 4.

— А зараз дзеці, самі майструйце. Добра выйдзе,—прысылайце да нас. Мы гэта надрукуем. Няхай ведаюць пра вашую выдумку чытачы „Іскраў Ільліча".

Е. Паленава і Н. Сахараў.

ВЫДАВЕЦТВА ЦК АКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА"

Рэдкалегія: ГАРБУЗ П. (адк. рэдактар). РАЦЭВІЧ В., ЯКІМОВІЧ А. (адк. сакратар).

ЦАНА 18 КАП.





Манцёр за працай.

Фото У. АЗЕРСКАГА.

## ХТО ЯШЧЭ НЕ ПАДПІСАЎСЯ НА „ІСКРЫ ІЛЬІЧА" НА УСЁ ЛЕТА?

ТАМУ ТРЭБА ЗАРАЗ-ЖА ВЫПРАВІЦЬ СВАЮ ПАМЫЛКУ: ПАСЬПЯШАЦЦА НА ПОШТУ І ЗДАЦЬ ПАДПІСКУ НЯ МЕНШ ЯК НА ПАЎГОДА НА САМУЮ ТАННУЮ І КАРЫСНУЮ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ ЧАСОПІСЬ „ІСКРЫ ІЛЬІЧА".

## АДКАЗЫ НА ЗАДАЧЫ, ШТО БЫЛІ ЗЬМЕШЧАНЫ У № 3.

№ 3. ЧАТЫРЫ РЭБУСЫ.

1) Забава: сьпераду намаляваны літары „Б А", а за „Б А" ззаду стаяць літары „В А", вось і выходзіць—ЗА-БА-ВА.

2) Кастрычнік: літары „К" вымаўляецца як „ка", далей ідзе „С", потым тры (3), а потым у аднэй фігуры злучаны яшчэ 4 літары: Ч, Н, І, К. Варта толькі добра прыглядзецца, і вы іх знойдзеце ўсе.

3) Аглабля. 4. Падэшва. Гэтыя астатнія рэбусы вам будзе ня цяжка разьвязаць, калі вы зразумееце, як разьвязваюцца першыя.

ЗАГАДКІ: Адгадкі такія: Іголка, мароз, лёд і мароз, язык.

Адгадкі на задачы з № (1)4 будуць зьмешчаны ў № 3, там-жа будзе абвешчана, хто першы адгадаў усе загадкі.

Друк. БДВ. Зак. № 1137. У ліку [illegible] экз. [illegible] Галоўлітбел № 1064.